№16 жнівень 2011

# Настаўнік.info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

## Актыўная ацэнка: Два гады таму і сёння




Выдатная навіна: з'явіўся новы сайт «Актыўная Ацэнка» - http://aacenka.by.

Само па сабе паўстанне дадатковага адукацыйнага рэсурса на роднай мове – ужо падзея, вартая ўвагі і падтрымкі з боку настаўнікаў і бацькоў.

Выглядае, што ў дадзеным выпадку крэдыт даверу неабыякавых карыстальнікаў будзе апраўданы - настолькі актуальныя і запатрабаваныя ў сусветнай адукацыйнай парадыгме рэчы падаюць, тлумачаць і дэманструюць на старонках «Актыўнай Ацэнкі» аўтары сайта.

Упершыню беларускія настаўнікі разгорнута пазнаёміліся з сістэмай актыўнай ацэнкі (далей - АА) ў 2009 годзе, на семінары-практыкуме «Эфектыўныя метады матывацыі і ацэнкі».

Трыццаць шэсць беларускіх педагогаў калегіяльна выпрабавалі метадычныя прыёмы стратэгіі і спраўдзілі іх эфектыўнасць у далейшай працы. Дарэчы, менавіта ўдзельнікі таго семанара прапанавалі выраз *«актыўная ацэнка»* ў якасці адпаведніка арыгінальнаму *«formative assessment»* (выбраўшы яго сярод такіх варыянтаў, як «бесцэнная ацэнка», «фармацыйная ацэнка», «фармавальная ацэнка»).

Сёння ўжо можна сцвярджаць, што знаёмства сталася плённым.

Так, загадчык кафедры педагогікі і філасофіі адукацыі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Мікалай Іванавіч Запрудскі прысвячае ключавым пытанням АА частку свайго дапаможніка для настаўнікаў. У раздзеле «Тэхніка пастаноўкі пытанняў» ён раскрывае ролю пытанняў як эфектыўных сродкаў навучання; прыводзіць тыпалогію пытанняў; апісвае праблемы і правілы пастаноўкі пытанняў, метады, якія дапамагаюць навучыць ставіць пытанні вучняў; прапануе трэнінгі для настаўнікаў і навучэнцаў па развіцці ўменняў пастаноўкі пытанняў (М. И. Запрудский. Современные школьные технологии-2: Пособие для учителей. Мн: Сэр-Вит», 2010).

Аўтарскія курсы Мікалая Іванавіча «Дыдактычныя асновы і практыка эфектыўнай кантрольна-ацэначнай дзейнасці суб'ектаў адукацыйнага працэсу» сталі асноўнай часткай зместу метадычнага летніка настаўнікаў фізікі «Альхоўка-2010» (http://www.academy.edu.by/details/personnels/zaprudsky/letnik.html).

Настаўніца віцебскай гімназіі Галіна Анатольеўна Сухава, лаўрэат конкурсу «Настаўнік года - 2009», актыўна ўжывае методыку АА на майстар-класах ды адкрытых уроках клуба «Крыштальны журавель», дзеліцца досведам на курсах і семінарах Віцебскага абласнога інстытута развіцця адукацыі. На яе думку, кантроль і ацэнка вынікаў навучання з'яўляюцца адным з самых моцных стымулаў да перагляду падыходаў і уласных пазіцый адносна эфектыўнага навучання літаратуры (Галіна Сухава. Няправільных думак не бывае: Эфектыўны ўрок літаратуры // Настаўніцкая газета, 1 лістапада 2011 г.).

Старэйшы выкладчык кафедры педагогікі вышэйшай школы і сучасных выхаваўчых тэхналогій БДПУ Міхась Вікенцьевіч Кудзейка даводзіць, што менавіта паслядоўнае выкарыстанне АА дасць магчымасць змяніць статус прадметаў «Працоўнае навучанне» і «Выяўленчае мастацтва», пераводзячы іх з разраду павучальна-навучальных дысцыплін у прадметы развіццёвага навучання (Міхась Кудзейка. Каб адзнака стала актыўнай - http://nastaunik.info/news/?id=5826).

Мы вельмі цешымся з факту, што таксама зрабілі ўнёсак у папулярызацыю методыкі АА: яе азначэнне паводле OECD і разгляд асноўных элементаў былі прапанаваны нашаму чытачу ў №12 бюлетэня (http://nastaunik.info/files/f/648_nast12press.pdf); параўнальны разбор АА і традыцыйнай адзнакі – у №13 (http://nastaunik.info/files/f/649_nast13press.pdf).

Шчыра спадзяемся, сістэма актыўнай ацэнкі хутка знойдзе сваіх новых прыхільнікаў і практыкаў, а сайт «Актыўная Ацэнка» – сяброў і аўтараў.

## З гісторыі актыўнай ацэнкі

Тэрмін «Formative assessment» быў пазычаны аўтарам славутай таксаноміі педагагічных мэтаў Бенджамінам Блумам – у Майкла Скрывена, які ўпершыню ў 1967 г. размежаваў паняцці актыўнай (фармавальнай) ацэнкі і падсумавальнай ацэнкі (адзнакі). У 1968 г. Бенджамін Блум у кнізе «Навучанне для майстэрства» (Learning for Mastery) разглядаў актыўную ацэнку як інструмент для паляпшэння працэсаў выкладання і навучання.

У другой палове 80-х гг. XX ст. Брытанскае таварыства адукацыйных даследаванняў ініцыявала стварэнне даследчай групы для правядзення рэформы ацэначнай дзейнасці Assessment Reform Group. У выніку дзейнасці групы ў 2002 г. брытанскія адпаведнікі Міністэрства адукацыі (Department for Education and Skills і Office of Standarts in Education) выступілі з ініцыятывай пад назвай «Ацэнка, якая дапамагае вучыцца».

- У 2002 г. краіны АЭСР распачалі даследчую праграму, скіраваную на перагляд ацэначнай дзейнасці ў краінах АЭСР. У 2005 г. у Парыжы быў агучаны даклад, дзе актыўная ацэнка была прызнана эфектыўным інструментам паляпшэння адукацыі.

У ЗША актыўнай ацэнкай пачалі сур'ёзна цікавіцца з 2002 г. Найбуйнейшая амерыканская адукацыйная арганізацыя ASCD (Association for Supervision and Curriculum Development) рэгулярна ладзіць навуковыя дасдедаванні і тэматычныя канферэнцыі. Пры яе ўдзеле ў ЗША выдадзена шмат метадычных дапаможнікаў па актыўнай ацэнцы для настаўнікаў.

У Чэхіі працэс рэформы ацэначнай дзейнасці пачаўся ў 2010 г. Там актыўную ацэнку укараняюць «зверху» – ініцыятыва ідзе ад Нацыянальнага інстытуту адукацыі.

У Польшчы актыўную ацэнку папулярызуюць грамадскія арганізацыі, пачынаючы з 2003 г. Практычна кожны польскі настаўнік можа патрапіць на семінар ці дыстанцыйнае навучанне Цэнтра Грамадзянскай адукацыі CEO (Centrum Edukacji Obywatelskej) – вялікай арганізацыі, да якой прыслухоўваецца Міністэрства Адукацыі.

У Беларусі папулярызацыя метада актыўнай ацэнкі пачалася ў 2009 г., хаця асобныя элементы методыкі выкарыстоўваліся беларускімі настаўнікамі яшчэ ў сістэме развіццёвага навучання.

# Сайт «Актыўная Ацэнка»

На галоўнай старонцы - http://aacenka.by - пададзена ўводнае азначэнне АА як методыкі, якая злучае



актыўныя метады ў адзіную сістэму працы і скіравана на фармаванне навыка вучыцца на працягу ўсяго жыцця.

Галоўнае меню змяшчае 7 раздзелаў:

**1. Пра Актыўную Ацэнку**

Матэрыялы па АА: кнігі, артыкулы, прэзентацыі, спасылкі...

***Кнігі***

Бібліятэка АА: агляд асноўных манаграфій, пераважна на замежных мовах. Звяртаем увагу, што ў раздзеле выкладзены тэкст ужо класічнага выдання «Унутры чорнай скрыні: павышэнне стандартаў навучання праз ацэнку» Пола Блэка і Дылана Вільяма (P.J. Black, D. Wiliam. Inside the Black Box).



Прафесары Каралеўскага Каледжа ў Лондане даследавалі, як АА ўплывае на прадукцыйнасць навучання. Разгляд больш чым 250 артыкулаў з розных краін свету прывёў аўтараў да высновы, што АА - інструмент, які ляжыць «у сэрцы эфектыўнага навучання».

***Артыкулы***

Аўтарскія артыкулы: галоўнае пра АА з досведу беларускіх і замежных педагогаў.

Сярод іншага: «Ацэнка, непадобная ні на што» Дануты Стэрны, «Мае ўражанні ад выкарыстання методыкі АА» Галіны Скарыны, «Як зрабіць мэту ўрока дасягальнай: тэхналогія SMART» Алены Радзевіч.

Прэзентацыя Мікалая Запрудскага «Ацэначная дзейнасць настаўніка і вучня» прапануе разбор наступных



асноўных сродкаў АА:

- уваходная дыягностыка і самадыягностыка;
- дыягнастычна сфармуляваная навучальная мэта;
- крытэрыі выканання кагнітыўных і крэатыўных заданняў, якія загадзя вядомыя вучням;
- лісты самаацэнкі;
- убудаваны ў працэс кантроль і самакантроль;
- эталоны, узоры правільных адказаў, культурнагістарычныя аналагі;
- рэфлексія;
- ацэначныя пісьмовыя каментарыі настаўніка;
- пытанні настаўніка і вучняў;
- партфоліо вучня;
- e-mail, форумы, блогі.

***Спасылкі***

Інфармацыя пра АА на іншых сайтах.




**2. Настаўнікам**

Аўтарскія матэрыялы, якія дапамогуць настаўнікам праводзіць заняткі па прынцыпах АА.

- Распрацоўкі ўрокаў паводле прынцыпаў АА: план урока «Мая Радзіма Беларусь» настаўніцы са Стоўбцаў Алы Ярмак; план выхаваўчага мерапрыемства «Сабака – верны сябар» чалавека выхавальніцы Жабінкаўскага




раённага сацыяльна-педагагічнага цэнтра Вольгі Каляды; распрацоўкі ўрокаў беларускай літаратуры Галіны Сухавай з Віцебска ды інш.

- Спецыфіка прымянення АА пры выкладанні розных прадметаў, мэты настаўніка і мэты для вучняў, крытэрыі ацэнкі – «наштобузу», ключавыя пытанні па прадметах, прыёмы зваротнай сувязі ды інш.

***Падраздзелы***

- Біялогія
- Беларуская мова і літаратура
- Выхаваўчая праца
- Гісторыя
- Дашкольнае і пачатковае навучанне
- Замежныя мовы
- Матэматыка
- Працоўнае навучанне
- Фізіка
- Фізічнае выхаванне



**3. Бацькам**

Раздзел для бацькроў, гатовых удзельнічаць у працэсе адукацыі.

*Пра што вы, шаноўныя бацькі, пытаецеся ў свайго дзіцяці, калі тое вярнуліся са школы? «Што ты сёння атрымаў?»... А паспрабуйце запытацца: «Чаму ты сёння навучыўся?»*

Сярод іншых матэрыялаў: узор інфармацыйнага ліста для бацькоў, артыкул «Бацькам пра Актыўную Ацэнку» Дануты Стэрны.

**4. У свеце**

Прымяненне метаду АА ў іншых краінах свету.

Найбольш важныя артыкулы, кнігі, праграмнае



забеспячэнне і вынікі даследаванняў змяшчае сайт «Formative assessment: for those who believe in better education!» - http://formative-assessment.com/ .

**5. Спытай эксперта**

У гэтым раздзеле можна задаць пытанне.

***Эксперты сайта***

- Данута Стэрна – настаўніца матэматыкі, эксперт і трэнер Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшчы, аўтар кнігі «Актыўная Ацэнка на практыцы», блога «Moja oś świata» (http://mojaosswiata.wordpress.com/ ).

- Мікалай Запрудскі – загадчык кафедры педагогікі і філасофіі адукацыі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, галоўны рэдактар навукова-метадычнага часопіса «Фізіка: Праблемы выкладання», кандыдат педагагічных навук, дацэнт.

- Ева Баргош – настаўніца



нямецкай мовы, трэнер АА, дырэктар школы ў Польшчы.

**6. Кантакты**

Стваральнікам сайта можна напісаць на адрас info@aacenka.by .

# Акадэмічнаю моваю

Расійская даследчыца Маргарыта Лебедзева на канферэнцыі, прысвечанай інавацыйным навучальным тэхналогіям, прысвяціла свой даклад адметнасцям сістэмы актыўнай ацэнкі і яе ролі ў «рэалізацыі стандартаў новага пакалення».

Тэзісы яе даклада могуць прыдасца тым, каму зручней ўспрымаць і папулярызаваць інфармацыю, выкладзеную з дапамогай спецыялізаванай мовы.

Сёння мяняецца парадыгма адукацыі. Стандарты новага пакалення абапіраюцца на дзейнасную парадыгму, скіраваную на развіццё асобы навучэнца праз засваенне ім спосабаў дзейнасці. Усё большае значэнне надаецца фармаванню ў навучэнцаў асабовых, метапрадметных і прадметных кампетэнцый.

Арыентацыя адукацыйнага стандарту на дзейнасны падыход, на фармаванне абагуленых спосабаў дзейнасці ставіць працэдуру ацэнкі ў асаблівае становішча. Яна выступае адначасова і як мэта, і як сродак навучання. Гэта, у сваю чаргу, патрабуе абавязковага ўключэння ў змест адукацыйнага працэсу фармавання такога складніка, як навыкі рэфлексіі, самааналізу, самакантролю, самаацэнкі, г.зн. уключэння ў працэс ацэньвання працэдур самаацэнкі.

Усё больш папулярным робіцца паняцце – фармавальнае ацэньванне *(у арыгінале – «формирующее оценивание»)*. Фармавальнае (унутранае) ацэньванне скіравана на вызначэнне індывідуальных дасягненняў кожнага навучэнца і не прадугледжвае як параўнання вынікаў розных навучэнцаў, так і адміністрацыйных высноваў з нагоды вынікаў такога параўнання.

Фармавальным такі від ацэньвання называецца таму, што ацэнка зарыентаваная на канкрэтнага навучэнца, закліканая выявіць прабелы ў засваенні навучэнцам элемента зместу адукацыі, каб папоўніць іх з максімальнай эфектыўнасцю, такім чынам, ацэньванне скіравана на фармаванне і развіццё асобы навучэнца.

У працэсе такой ацэначнай дзейнасці педагог зможа выразна і даходліва фармуляваць мэты вывучэння прадмета, звязваць вывучаныя тэмы ў адзіную і гарманічную карціну, вызначаць адэкватныя спосабы кантролю вынікаў, матывуючы навучэнцаў на дасягненне максімальна магчымага ўзроўню. Навучэнцы засвойваюць прынцыпы самаацэнкі і спосабы паляпшэння ўласных вынікаў, падзяляюць з педагогам адказнасць за ўласную адукацыю.

Апісаць сутнасць ўнутранага (фармавальнага) ацэньвання можна наступнай метафарай: «Калі ўявіць вучняў у вобразе раслін, то вонкавае (падсумавальнае) ацэньванне раслін ёсць працэсам простага вымярэння іх росту. Вынікі вымярэнняў могуць быць цікавыя для параўнання і аналізу, але самі па сабе яны не ўплываюць на рост раслін. Унутранае (фармавальнае) ацэньванне, наадварот, падобна да падкормкі і палівання раслін, з'яўляецца тым, што наўпрост уплывае на іх рост».

### Характарыстыкі фармавальнага ацэньвання

Засяроджанае на навучэнцы

Гэтае ацэньванне факусуе ўвагу педагога і навучэнца перадусім на адсочванні і паляпшэнні навучання, а не выкладання. Яно дае педагогу і навучэнцу канкрэтную інфармацыю, на падставе якой тыя прымаюць рашэнні, як паляпшаць і развіваць навучанне, у якім кірунку рухацца, над якімі праблемамі працаваць.

Накіроўваецца педагогам

Гэтае ацэньванне мае на ўвазе аўтаномію, свабоду ў выбары падыходаў да арганізацыі навучання і высокі прафесіяналізм педагога, паколькі менавіта ён вырашае, што ацэньваць, якім чынам, як рэагаваць на інфармацыю, атрыманую ў выніку ацэньвання. Пры гэтым настаўнік не абавязаны абмяркоўваць вынікі ацэньвання з кім-небудзь, акрамя навучэнцаў.

Рознабакова выніковае

Паколькі ацэньванне сфакусавана на навучанні, яно патрабуе актыўнага ўдзелу навучэнцаў. Дзякуючы саўдзелу ў ацэньванні, навучэнцы глыбей уваходзяць у матэрыял і развіваюць навыкі самаацэньвання.

Педагогі пры гэтым таксама працуюць больш канцэнтравана, яны увесь час пытаюцца ў сябе: «Якія найбольш істотныя веды і ўменні я імкнуся даць навучэнцам?», «Як я магу высветліць, ці навучыліся яны гэтаму?», «Як я магу дапамагчы ім вучыцца лепш?» Калі педагог, адказваючы на гэтыя пытанні, працуе ў шчыльным кантакце з навучэнцамі, ён дасканаліць свае выкладчыцкія ўменні і прыходзіць да новага разумення сваёй дзейнасці.

Фармуе навучальны працэс

Мэта дадзенага ацэньвання - паляпшаць якасць навучання, а не ствараць падставу для выстаўлення адзнак. Яно з'яўляецца крытэрыяльным і часта ананімным (г.зн. вынікі вядомыя канкрэтнаму навучэнцу, але не вядомыя яго сябрам у групе).

Вызначана кантэкстам

Гэтае ацэньванне павінна адпавядаць пэўным характарыстыкам і патрэбам настаўніка, навучэнцаў і навучальных дысцыплін.

Ажыццяўляецца бесперапынна

Гэтае ацэньванне - працяглы працэс, які запускае механізм зваротнай сувязі і ўвесь час трымае яго ў працоўным стане. Ужываючы шырокі асартымент простых тэхнік, якія можна лёгка і хутка засвоіць, педагог мае ад навучэнцаў зваротную сувязь наконт таго, як тыя вучацца. Выкладчыкі падтрымліваюць гэты механізм, даючы навучэнцам зваротную сувязь наконт вынікаў ацэньвання і магчымасцяў палепшыць працэс навучання.

Палягае на якасным выкладанні

Падобнае ацэньванне імкнецца пабудаваць на аснове ўжо наяўнай даволі паспяховай і высока прафесійнай практыкі (праз уключэнне механізму зваротнай сувязі, які інфармуе педагога аб тым, як вучацца навучэнцы) практыку яшчэ больш сістэматычную, рухомую і плённую. Педагог актыўна задае вучням пытанні, адказвае на тыя пытанні, якія паўстаюць у іх, назірае за іх паводзінамі, выразам іх твараў, чытае хатнія заданні, правярае тэсты і г.д. Фармавальнае ацэньванне дае магчымасць натуральным чынам інтэграваць ацэньванне ў традыцыйныя працэсы выкладання і навучання, якія адбываюцца ў класе.

### Умовы рэалізацыі фармавальнага ацэньвання

- Распрацаваныя і апісаныя асноўныя віды дзейнасці ў залежнасці ад спецыфікі прадметнай вобласці;
- Распрацаваныя крытэрыі ацэньвання розных відаў дзейнасці ў працэсе навучання;
- Крытэрыі ацэньвання адкрытыя, даводзяцца да навучэнцаў і дакладна каментуюцца;
- Распрацаваная рэйтынгавая сістэма, г.зн. вызначана, колькі балаў «каштуе» той ці іншы від дзейнасці;
- Распрацаваныя тэхнікі і інструменты ацэньвання, г.зн. формы, бланкі для фіксацыі хады працы і дасягненняў навучэнцаў;
- Ацэньваецца перадусім працэс, а не вынік;
- Важную ролю адыгрывае рэфлексія (г.зн. ацэньванне як навучэнцамі, так і педагогам сваіх дасягненняў);
- Працэдура ацэньвання абмяркоўваецца з навучэнцамі.

### Вартасці фармавальнага ацэньвання

Навучэнец бачыць свой навучальны прагрэс, адчувае адказнасць за сваю навучальную працу, імкнецца выконваць яе якасна, разумее і выкарыстоўвае сувязі паміж навучальнай праграмай, навучальнымі мерапрыемствамі і ацэньваннем, фармулюе свае навучальныя чаканні, а пасля вызначае, ці спраўдзіліся яны, можа завяршыць засваенне матэрыялу раней і перайсці да засваення паглыбленай праграмы, гатовы да навучання на працягу ўсяго жыцця.

Настаўнік робіцца памочнікам вучня, менеджэрам навучальнага працэсу замест носьбіта ведаў, вучыць ў дакладна зададзеным дыяпазоне навучальных вынікаў.

Пераклад рэдакцыі, паводле:

*М.Б.Лебедева. Реализация подходов к оцениванию учебных достижений обучающихся средствами информационных технологий // Информационные технологии для Новой школы. Мат-лы конференции. СПб.: ГОУ ДПО ЦПКС СПб «Региональный центр оценки качества образования и информационных технологий», 2011. С. 5 – 8.*

# З доляй жарту

Неяк у адну міліцэйскую ВНУ адзін маладзён паступаў з блатам. Здаваў матэматыку. Білет ён не цягнуў, а атрымаў з рук камісіі. Аднак не рашыў ніводнай задачы. А на просьбу выкладчыка хаця б напісаць на дошцы тры ў квадраце - намаляваў тройку і аблямаваў яе квадратнай рамачкай.
На бюджэт дзяцюк паступіў...

***

Бацькава дзяга з бляхай была абрана «Лепшым настаўнікам года».

***

Нягледзячы на крызіс, беларускія матэматыкі паабяцалі кіраўніку краіны ўтрымліваць лік «пі» ў межах паміж 3 і 4 да канца года!

***

Першае правіла БРСМ - ніколі не кажы, што ты ў БРСМ!

***

Успамінаецца показка брэжнеўскай эпохі:
- Тата! - пытаецца ў палкоўніка КДБ сын-школьнік, – дык ці быў 1937 год у гісторыі нашай краіны?
– Не, сынку, не быў. Але будзе.

***

- Вы хто?
- Я мірны атам.
- А чаму з сякерай?
- Вось бачыце, як мала вы ведаеце пра мірны атам!

***

Акцыя ад Microsoft: Пасадзі свайго настаўніка інфарматыкі і атрымай прышпільную футболку!

***

Для таго, каб настаўніку ўрэзаць заробак, звычайна патрэбны мікрахірург.

***

- Каб набыць кватэру ў Мінску, трэба працаваць каля 150 - 200 год. Гэта таму, што ўрад клапоціцца, каб мы доўга жылі...

***

З правільным падборам літаратуры і ў прыбіральні можна атрымаць неблагую адукацыю.

***

- Чаму чэкісты з Беларусі не сыходзяць?
- Бо з імі за 30-ыя гады яшчэ не разлічыліся.

***

- Вітаю, ты так схуднела! Што ў цябе за дыета?
- Не ем пасля васьмі.
- Пасля восьмі вечару?
- Пасле восьмі тысяч за даляр!

***

- Сынку, як экзамены?
- Падаражэлі...

***

Пытанне на сайце Магілёўскага гарвыканкама:
- Падкажыце, калі ласка, дзе можна купіць зборнік вершаў Васіля Быкава. А таксама кнігу «Францыск Скарына. Мой Піцер» пра пецярбургскі перыяд творчасці нашага слыннага земляка.
Адказвае галоўны спецыяліст аддзела культуры Магілёўскага гарвыканкама:
- У кніжных фондах гарадскіх бібліятэк дадзеных кніг няма. Каб аформіць заказ на набыццё, звяртайцеся ў кнігарні горада!

***

Міліцыянт спыняе студэнта і загадвае паказаць дакументы.
- Та-ак, не працуем, значыць...
- Так, не працуем.
- Та-ак, грошыкі дзяржаўныя праядаем, значыць...
- Так, праядаем.
- Та-ак, студэнты мы, значыць...
- Ды не, прабачце, студэнт толькі я!

***

Акцыя: стань найлепшым выпускніком БДУ - і атрымай размеркаванне ў Хойніцкі раён!

***

Калі дзеці беларускіх міністраў пішуць сачыненне, як яны правялі лета, над іх сшыткамі плачуць настаўнікі.

***

Прыязджаюць два турысты ў Беларусь і адзін кажа:
- Трэба ж гадзіннік перавесці, на колькі тут час адстае?
- На 20 гадоў.

***

Настаўнік: На якім току працуе трамвай?
Вучань: Вядома, на пераменным. На пастаянным ён бы хадзіў толькі ў адзін бок.

Падыходзіць у метро ў вагоне міліцыянт да студэнта,які спіць і ў якога на каленях ляжыць падручнік Ландаў «Тэорыя поля».
Міліцыянт: «Прачынайся, аграном! Канцавы!»

***

Беларус у Амерыцы выпадкова штурхае амерыканца і просіць прабачэння:
- I'm sorry.
Амерыканец тут жа ў адказ:
- I'm sorry too.
Беларус, падумаўшы, адказвае:
- I'm sorry three.
Амерыканец:
- What are you sorry for?
Беларус:
- I'm sorry five!

***

- Чаму на афіцыйных шыльдах усюды напісана ФЛАГ, калі ёсць спрадвечна беларускае слова СЦЯГ?
- Таму што ФЛАГ - дзяржаўны сімвал, а СЦЯГ - нацыянальны.

***

Вовачка на ўроку:
- Ядвіга Казіміраўна, а як правільна пісаць - «акаголіка»... «аканоміка» ці «эканоміка»?
- Улічваючы яе стан і мой заробак, Вовачка, - пішы, як хочаш.

***

Перадавіца ў дзяржаўнай газеце:
- Нацбанк занепакоены ўзроўнем фінансавай граматнасці насельніцтва.
Водгук у рэдакцыю:
- Насельніцтва непакоіцца наконт фінансавай граматнасці Нацбанка!

Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта **Nastaunik.info**
Адрас для допісаў: ***nastaunik.info@gmail.com***
Наклад 200 асобнікаў